# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

**Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 13 | 17 лістапада 1928 г. | № 13


ЗЬМЕСТ.



# Школьную працу трэба аздаравіць.

Прыглядаючыся да працы пачатковых школ, а таксама да вучняў, якімі ўкамплектоўваюцца сямігодкі, трэба адзначыць, што вясковая школа вельмі мала ўвагі аддае выхаваўчай частцы. Вучні амаль што зусім ня ўмеюць працаваць калектыўна, у іх вельмі слабае паняцьце аб тым, што калектывам хутчэй разьвязваць тыя ці іншыя пытаньні, на якіх аднаму прыходзіцца траціць шмат часу.

У большасьці вучні вясковых школ індывідуалістыя. Вельмі часта сустракаеш такіх, якім цяжка нават падзяліцца з таварышом і кніжкай. Такі індывідуалізм не дае магчымасьці адраву пераходзіць з У гр. да частковай лябараторнасьці і ўвесь час прыходзіцца весьці заняткі лекцыйна, падрабязна разжоўваць кожнае пытаньне.

Адсутнічаюць у вучняў і культурныя звычкі, а таксама санітарна-гігіенічныя. Наведваньне школы без паясоў, даўгія валасы, бруд на руках і ў вушах—самыя звычайныя сярод вясковых вучняў зьявішчы. Асабліва сталай барацьбы патрабуе прывычка сядзець у вопратках і хустках у клясах. Пры самай высокай тэмпэратуры ў клясах вучні ня скідаюць кажуха, нават да УП гр. уключна. Тут сказваецца кепскае становішча большасьці вясковых школ, дзе мала апалу і адсутнічаюць вешалкі.

Дрэнныя ў вучняў адносіны і да пісьмовых работ. Ня рэдкі выпадкі, калі работы выконваюцца алоўкамі са сьлядамі частых падчыстак. Падчысткі так уеліся ў прывычкі, што і пры разьвязваньні нават арытмэтычных прыкладаў, пры адсутнічаньні рызінак, хоць пальцам паскрабе. Тое-ж робіцца потым і ў сшытках хатніх работ.

Адсутнасьць па вясковых школах бібліятэк прывяла да таго, што вучні ня ўмеюць карыстацца кнігай. Яны нават ня могуць знайсьці па падручніку патрэбны матар'ял і абавязкова запытаюцца: «на якой старонцы». Пры распрацоўцы заданьня па такіх прадметах, як гэамэтрыя, альгэбра, або фізыка, заданьне проста вучыцца і вельмі рэдка скарыстоўваецца сшытак для самастойных распрацовак па курсу.

Мастацкае выхаваньне ў вёсцы амаль што зусім не практыкуецца, вучні У гр. ня ўмеюць уладаць алоўкам пры маляваньні, ня ўмеюць правільна правесьці простую лінію ці начарціць кут, у той час, як комплексныя тэмы кожны раз вымагаюць маляваньня простых рэчаў, а ў праграму ўваходзіць і геомэтрычны матар'ял.

Чытаньне носіць чыста мэханічны характар. Аб дэклямацыі і казаць няма чаго.

Паняцьці аб самакіраваньні таксама вельмі слабыя. Вучні У-х груп слаба наведваюць агульныя вучнёўскія сходы, мала ўдзельнічаюць у правадзімых кампаніях. Зусім ня прывыклі да газэт, бо вясковыя школы мала аддаюць увагі газэтнай працы з вучнямі, распаўсюджваньню газэт сярод вучняў. Слабая пастаноўка працы з насьценгазэтай. Звычайна выгляд іх вельмі жалкі, такі і зьмест. Тут ня знойдзеш адбітку вясковага жыцьця, выразнага малюнку працы школы.

Адсутнічае ў большасьці вывучэньне ня толькі райёну, але і тэй тэрыторыі, якую абслугоўвае школа. Умовы хатняга жыцьця вучня, быту сям'і ў большасьці таксама вясковую школу ня цікавяць. На гэта зварочваецца ўвага толькі выпадкова, калі вучань пакіне школу.

Антырэлігійны бок у выхаваньні кульгае.

Казаць пра клюбную працу зусім ня прыходзіцца, бо вясковая школа часта ня мае больш-менш здавальняючых і нават клясных пакояў.

У сямігодках таксама шмат недагаворанасьці, недахопаў і перашкодаў у выхаваньні вучнёўства. Часта бываюць выпадкі, калі органы вучнёўскага самакіраваньня ўтвараюць суды над вучнямі за тое, што яны ня ўдзельнічаюць у добраахвотных грамадзкіх арганізацыях.

Слабая сувязь з піянэрарганізацыяй і шмат іншых хібаў. Праца сямігодак часта ідзе міма насельніцтва, мерапрыёмствы школы застаюцца для яго невядомымі. Рэдкі агульныя бацькаўскія сходы.

У апошнія часы пералічаныя недахопы становяцца прадметам абгаварваньняў настаўніцкіх канфэрэнцый, нарадаў. Але пакуль што праца ў гэтым напрамку разгорнута ня зусім здавальняюча.

Настаўніцкім калектывам яшчэ шмат засталося працы. У яе неабходна ўцягнуць вучняў, бацькоў, асабліва жанчын, і адзіным фронтам пайсьці на зьнішчэньне ўсіх хібаў школьнага жыцьця.

**Настаўнік.**

*Амсьціслаў.*

# Калёквіумы не выганяць са школы, а правільна іх арганізаваць.

**(З практыкі вясковага настаўніка).**

У дадатку да «С. Б.» „Працаўнік Асьветы“ № 11 т. Малыхін закрануў пытаньне аб тых хібах, якія сустракаліся пры правядзеньні калёквіумаў у нашых школах, і вызначае шэраг момантаў да паляпшэньня гэтае справы.

На бягучы вучэбны год мы павінны загадзя абмеркаваць пытаньне агулам аб калёквіумах, гэта абгаварэньне распачаць зараз, а не адкладваць яго ў доўгую скрынку, чакаць таго часу, калі ўжо трэба рабіць выпуск са школы. Так прыблізна было ў мінулым годзе вясною.

Гэта пытаньне заслугоўвае значнае ўвагі падагагічнае думкі, аб ім павінны сказаць сваё слова настаўнікі.

На працягу некалькіх год мне прыходзілася прымаць удзел у правядзеньні калёквіумаў па вясковых адна і двухкамплектавых школах. Звычайна зьбіралася па некалькі школ разам з групамі вучняў у 20-30 асоб.

Разьмеркаваньне працы рабілася так, каб мець магчымасьць азнаёміцца з тэхнічнымі звычкамі пісьма праз пісьмовую працу па мове і арытмэтыцы, а потым вялася агульная гутарка па комплексах з іх мэтавымі ўстаноўкамі, каб з гэтае гутаркі выявіць агульнае разьвіцьцё, веды і разьвіцьцё мовы дзіцяці.

Мы ставім пытаньне так, каб гэту працу праводзіў сам настаўнік, ні ў якім разе не дапускалі, каб вёў гутарку райінспэктар, або іншы які незнаёмы таварыш, прыехаўшы «экзаменаваць».

Самой камісіі звычайна ніхто і ня бачыў, бо ў клясу прыходзіла ў часе калёквіуму, апрача бацькоў вучняў, якія прывозілі іх на калёквіум, шмат вясковага жыхарства, асабліва той маладняк, які яшчэ ня страціў сувязі са школай.

Ніхто з нас ня вёў ніякіх сьпісаў, не рабіў ніякіх занатаваньняў аб адказах таго або іншага вучня, не даваў яму поваду думаць, што вось яго ўжо запісалі, што ён нічога ня ведае.

Самая гутарка праходзіла так, каб выклікаць жвавасьць, ня даць задумавацца доўга над тым, чаго вучань не адказаў, інакш кажучы, мэтай гутаркі было ўцягнуць у разьвязную працу ўсіх дзяцей, разьвіць і выявіць іх актыўнасьць і здольнасьць. Таго, хто на пастаўленае пытаньне адразу адказаць ня мог, доўга ня мучылі, не прымушалі яго думаць над тым, чаго ён ня ведае—адказваў той, хто меў адказ гатовым.

Калі вучань не адказаў на адно запытаньне, дык ён ведаў і быў упэўнен, што яго і яшчэ спытаюць, што ён другое ведае, калі гэтага не адказаў. У ім раджаецца ўпэўненасьць у сваіх ведах.

Калі выклікаць вучня ў камісію, паставіць яго за сталом на месцы ды пачаць перасыпаць пытаньнямі з розных галін ведаў, па кавалачку ад кожнага комплексу, дык, зразумела, вучань лёгка можа заблытацца. А раз ён заблытаўся, дык тады папраўіцца ўжо цяжка. Пры форме-ж нашых гутарак заблытанасьці быць ня можа, бо праца тут праходзіць у тэй паступовасьці, якая пануе і ў працы школы—адно ўвязваецца з другім.

Пасьля такое гутаркі ў працягу гадзіны або паўтары коратка знаёміліся з тэхнікай чытаньня і вусным лічэньнем, і зноў такі ў форме кляснае прапрацоўкі.

На працягу ўсяго гэтага часу ніхто з староньніх, незнаёмы з нашай пастаноўкай працы, не сказаў-бы, што тут камісія праводзіць калёквіум; хутчэй можна было-б падумаць, што гэта настаўнік перад сваімі таварышамі-настаўнікамі дае практычную лекцыю па чытаньню або лічэньню.

Працу звычайна даручалі найбольш мацнейшым настаўнікам, а рэшта настаўнікаў, якіх зьяжджалася чалавек 5—10, лічылі сябе прысутнымі на практычнай лекцыі.

Гэта нават паляпшала прыёмы ў працы настаўнікаў, як і тыя практычныя лекцыі, якія мы імкнёмся практыкаваць дзеля павышэньня кваліфікацыі.

Пасьпяховасьць кожанага вучня камісія абмяркоўвала потым асобна.

Вось толькі пры абмеркаваньні пасьпяховасьці ўжо відаць было, што ёсьць камісія.

Калёквіумы ў большасьці праходзілі жыва і ў прысутнасьці грамадзкасьці.

Памятны адзін выпадак, калі на заключным пасяджэньні камісіі выступілі бацькі і казалі, што цяперашняя школа ня тая вучыць, як раней. Зараз дзеці ведаюць пра ўсе справы, а раней умелі толькі богу маліцца ды расьпісацца.

Такі самы характар могуць насіць і іншыя калёквіумы ў сямігодцы. Калёквыумы павінна быць пераведзены на падагуленьне працы. Настаўнік пэўнае дысцыпліны вядзе звычайна паўтарэньне ў VII клясай, камісія-ж ніякага ўдзелу тут ня прымае. Пасьля двух, трох-гадзіннае гутаркі выяўляецца, напершае, глыбіня прапрацоўкі матар'ялу гэтае галіны, часткова выявіцца веды паасобных вучняў, а слабейшых тым больш.

Наша трохгадовая практыка паказала, што вучні ня толькі не адчуваюць экзаменаў, але нават просяць працягнуць гутарку з удзелам сяброў камісіі, самі задаюць запытаньні.

Пры такой пастаноўцы калёквіумаў бязумоўна адпадаюць заседжваньні на цэлыя ночы, зуброжкі.

Адначасна з тымі сьветлымі бакамі нашых калёквіумаў былі і цьмяныя. Вельмі часта цень на калёквіумы наводзілі самі-ж настаўнікі. Так, напрыклад, у часе пісьмовых прац некаторыя настаўнікі стараліся дапамагчы вучням; гэта дапамога вылівалася ў тое, што настаўнік, калі няма каго з «чужых», проста дыктаваў, як пісаць. Або пры «чужых» абураўся на вучня і той ня ведаў, што рабіць, лічыў, што ён ужо нічога ня варты.

Прыходзілася дагаварвацца, каб настаўнікі ня шкодзілі працы па выяўленьню ведаў, і з году ў год справа наладжвалася.

Калі зараз ставіць пытаньне—патрэбны калёквіумы ці не, дык трэба адказаць, што правільна арганізаваныя калёквіумы ні ў якім разе нельга лічыць шкоднымі для нашай школы.

Калёквіумы апраўдваюць сябе тым, што яны дазваляюць азнаёміцца з тым, з якім запасам ведаў вучні выходзяць са школы, як глыбока прапрацоўвае настаўнік матар'ял, бацькі і іншае насельніцтва бачаць, якія дасягненьні мае савецкая школа ў справе разьвіцьця дзяцей; бацькі адчуваюць маральнае задаволеньне, што іх дзіцянё заканчвае адукацыю ў данай школе і ў гэтым урачыстым дні бачаць свайго роду парог, праз які вучань пераступае на далейшы жыцьцёвы шлях.

Калёквіумы трэба пакінуць, толькі арганізацыю іх трэба зьмяніць, палепшыць, каб вучні са задавольненьнем ішлі на іх, каб было відаць, што ў гэты дзень у вёсцы сьвята, што грамадзе перадаецца яшчэ жменька адукаванага маладняка, здольнага будаўніка новага сацыялістычнага жыцьця.

**Я. Ж.**

*Мазыршчына.*

# Пра кітоў, для якіх няма законаў.

Практыка мінулых гадоў паказала, што ў нас так званае пераўкамплектаваньне школ праходзіла ў многіх мясцох ненармальна кожны год.

Саюз працасьветы і Наркамасьветы прынялі шэраг мер, каб ніякіх неабгрунтаваных звальненьняў і перакідак не рабілася. Пісалася досыць аб гэтым і ў друку.

Аднак, з некаторых месц паступаюць весткі, што недарэчнасьці мелі месца і ў гэтым годзе.

Вось некалькі фактаў.

## Арлоўскаму інтарэсы цёшчы даражэй за школьныя.

У Нова-Палескай школе, Круглянскага райёну, Аршанскай акругі, працавала настаўніцтва Горбік. Настаўніца, як настаўніца.—Працу выконвала і школьную, і грамадзкую. Адна толькі была перашкода ў яе працы—памяшканьне пад школай нікудышнае—звычайная сялянская хата, тут і кляса, і кватэра настаўніцы, і ўсё іншае. І яшчэ на біду ў настаўніцы трое дзяцей, якіх у часе заняткаў хоць на вуліцу выкідай.

Цярпела настаўніца, цярпела і ўрэшце зьвярнулася да старшыні сельсавету Арлоўскага і стала даводзіць яму, што ў памяшканьні мучацца і школьнікі і яна сама, што за тыя грошы, якія выплачваюцца за гэту хату, можна наняць шмат лепшы будынак.

Але... Але, як на гора, хата пад школай хоць і дрэнная, але за тое яна зьяўляецца ўласнасьцю цёшчы самога старшыні сельсавету Арлоўскага.

Куды там шукаць новы будынак! Як-жа цёшча застанецца бяз прытулку?!

„Не, парашыў Арлоўскі, няварта перамяшчаць школу,—лепш я перамяшчу настаўніцу і клопату менш, і цёшчы дагаджу“.

Да пераводу-ж настаўніцы ён таксама прычыну знайшоў.

На агульным сходзе сяляне вёскі **„вынесьлі“** пастанову (як яе ўдалося правесьці Арлоўскаму, гэта ўжо яго ўласны сакрэт) наступнага зьместу:

> „... ввиду того, что настаўніца помещается в школе, имеет трое малых детей и во время занятия ее дети не дают ученикам заниматься, а также настаўніца во время занятия зимнее время доит коз в школе также из-за принципа не хочит заниматся с учениками общее собрание просит инспектарыят сменить на-цу Новапалесскай школы“...

Пастанову, як бачыце, зварганілі хоць куды.

У Круглянскім РВК людзі «не лыком шыты и не лаптем щи хлебают» —жаданьне Арлоўскага задаволілі.

## Актыўнасьць выяўляй, а начальства не чапай.

Там-жа на Аршаншчыне, толькі ў іншым райёне, у Копыскім, у Старасельскай сямігодцы працаваў настаўнік Казанскі. Працаваў ня кепска. Актывістам лічыўся. Але выходзіць, што актывістам трэба ўмець быць.—У школе ты працуй, грамадзкую працу вядзі, толькі начальства не чапай.

Казанскі-ж мусіць гэтага ня ведаў і меў прывычку на розных сходах і канфэрэнцыях сьмела сказаць аб усіх недарэчнасьцях, якія ён назіраў.—Бывае, трохі ўсыпе старшыні РВК Белавусаву, не пасаромяцца інспэктара асьветы Суворава, адказнаму сэкратару свайго раймясцкому працасьветы Шпаку таксама ня спускаў.

І вось гэтыя паважаныя тры кіты, на якіх трымаецца, можна сказаць, асьвета ў райёне, далі Казанскаму магчымасьць адчуць сэнс зьместу падзагалоўку гэтай гісторыі.

Пачалося з мясцкому. Шпак вынес пастанову на пасяджэньні МК «**Пазбавіць Казанскага выбарчых правоў**».

Сувораў пастанавіў — перакінуць Казанскага ў другую школу. Белавусаў-жа падтрымаў пастанову Суворава. Далей вузел пачаў яшчэ больш заблытвацца. У тэй школе, куды хацелі перакінуць Казанскага (вёска Зубава), працуе жонка настаўніка гэтай-жа Старасельскай сямігодкі Зяньковіча, жонка-ж Казанскага працуе таксама ў сямігодцы. Тут зацікаўлена адразу чатыры асобы. Казанскі і Зяньковіч пачалі прасіць Суворава, каб ён Казанскага з жонкай не разлучаў, а перавёў у Зубава Зяньковіча да жонкі. Здаецца, усё проста, і ўсе будуць задаволены.

Але, як я і казаў вышэй, Сувораў і Шпак ня лыкам шыты, яны і тут знайшлі выхад—**параілі настаўнікам памяняцца жонкамі**, і пытаньне будзе вычарпана.

Праўда, акруга згадзілася з настаўнікамі, Сувораў-жа з акругай спрачаецца і хоча правесьці ў жыцьцё сваю пастанову.

## Шалабада «абараняе».

Адказным сэкратаром Амсьціслаўскага РМК працасьветы зьяўляецца Шалабада. Ён таксама абараняе правы асьветнікаў.

Напрыклад, працаўнікі дзіцячага гарадзкога саду заміж стаўкі 54 руб. атрымоўваюць 36 руб. Бачыце, штат з працай не спраўляецца, а таму за кошт зацьверджанага штату павялічылі лік працаўнікоў.

У дзіцячым гарадку таксама штат недастатковы, але нічога—«устроілісь», дзень аддачынку ануліравалі.

У сэнсе перакідак і звальненьняў Шалабада больш далікатны, чым Шпак. Выбарчых правоў нікога не пазбаўляе, сілком не перакідае, робіць гладка—«і козы сыты і сена цэла».

Возьмем хоць-бы настаўніцу першай гарадзкой сямігодкі Лукашонак. Яна і актыўная і працаўніца добрая (такая думка аб ёй існуе ў адміністрацыі школы і акруговым інспэктарыяце), але бузіць ня любіць. Шалабада так тактычна падышоў да яе, што яна «дабраахвотна» (па заяве самаго Шалабады) згадзілася перавесьціся ў другую школу, а на яе месца прызначылі... жонку начальніка міліцыі г. Амсьціслаўля.—Свой чалавек, як не дапамагчы.

Або возьмем загадчыцу дзіцячага гарадка Сокалаву—таксама абышлося бяз лішняга лямэнту. Паехала яна лячыцца на курорт, а яе тымчасам зьнялі і прызначылі на яе месца жонку... самога Шалабады.

## Пытаньне трэба паставіць больш рашуча.

З пералічаных вывіхаў відаць, што сярод мясцовых працаўнікоў ёсьць яшчэ катэгорыя людзей, для якіх законы ня пісаны і не для іх выдадзен «Кодэкс Законаў аб Працы».

Што ім пасьля гэтага розныя абежнікі, інструкцыі, грамадзкая думка і інш.?!

Звычайна ва ўсіх недахопах працы прынята лічыць вінаватым настаўніка, і ён-жа і адказвае. А каб знайсьці корань гэтых недахопаў, дык аб гэтым ня дбаюць.

Дзеля пасьпяховай працы настаўніцтва трэба перш за ўсё стварыць спрыяючыя маральныя абставіны. А гэта робіцца ня ўсюды.

Дзеля прыкладу бяром ізноў Копыскі райён, на Аршаншчыне. Там пасьля гісторыі Казанскага і Зяньковіча, старшыня РВК Белавусаў, замест таго, каб ліквідаваць недарэчнасьць, на раённым сходзе настаўнікаў кінуў абвінавачаньне ўсяму настаўніцтву ў «лістападаўшчыне».

Пара ўжо, урэшце, усім гэтым бязглуздасьцям палажыць канец. З такім становішчам мірыцца далей нельга.

Камлюк

ФЭЛЬЕТОН.

# Або—настаўнік, або—не.

З грамадзянінам Сымонам Шуляkoўскім вышаў казус, і даволі арыгінальны казус. Чалавек быў настаўнікам, як сам ён прызнаўся—28 год, і раптам стаў ня толькі не настаўнікам, а нават няпісьменным.

Што?! Вы ня верыце? І я ня верыў, пакуль не пераканаўся. Але-ж гэта факт, праўда, крыху сумны, але—факт...

З былым настаўнікам, а зараз няпісьменным грамадзянінам С. Шуляkoўскім, я пазнаёміўся ў дарозе. Мы ехалі разам з мястэчка Старыя-Дарогі ў м. Глуск. Конь ішоў традыцыйнай балагольскай хадой: ні то шагам, ні то бягом. На разьбітых бабруйскіх дарогах аграмадную балагольскую каламашку трасло, падкідала, калаціла. На рытвінах і карэньнях, што перасякалі дарогу, каламашка зьвінела, скрыпела, стагнала—хадуном хадзіла. У такія моманты мой спадарожнік падскакваў, хватаўся за бок і енчыў.

— Чаго гэта вас так?—зьдзівіўся я.

— Бок баліць... хворы я, стагнаў мой спадарожнік... Мне і ехаць ня трэба было ў такую дарогу.

— Дык чаго-ж вы паехалі, калі ня трэба было?

А вось за тым, што трэба было,—адказаў ён нездаволена і, памаўчаўшы, дадаў:—Грошы зароблены ня хочуць мне плаціць... Быў я настаўнікам, цяпер звольлі і пэнсіі не даюць.

— Як-жа гэта так?—не паверыў я. Быць ня можа такога.

— А вот-жа бывае,—дадаў ён са злосьцю. І калі мы выехалі на больш роўную дарогу, мой спадарожнік расказаў мне пра той казус, як ён з настаўніка перарабіўся ў няпісьменнага чалавека...

Год 30 таму назад гр. С. Шуляkoўскі скончыў менскую духоўную сэмінарыю, але не пайшоў па папоўскай лініі: пацягнула яго ў настаўнікі. Вытрымаў ён экзамен на настаўніка і пачаў працаваць у школцы. Да вайны працаваў, да 14 году. А ў 14 годзе ўзялі настаўніка Шуляkoўскага ў салдаты і пагналі праліваць кроў «за веру и отечество». Не праліў крыві настаўнік Шуляkoўскі,—ці то крыві шкада было, ці то выпадку ня было—невядома, а як скончылася вайна, зноў пайшоў у настаўнікі. Працаваў ён у школках у межах цяперашняга Глускага і Старадароскага раёну. У часе розных акупацыяў у настаўніка Шуляkoўскага прапалі дакумэнты ў тым ліку і аб адукацыі. Як і якім чынам—невядома, але факт—прапалі дакумэнты. Асталася толькі, як кажуць, душа і цела, а пашпарта і няма. Ясна, чалавек аказаўся ня поўным: пры душы ды целе, але бяз пашпарту. Аб гэтым настаўнік Шуляkoўскі ня дужа гараваў: быў ён настаўнікам і ўсе ведалі, што ён настаўнік.

Так і працаваў чалавек без паперкі. Працаваў да сёлетняга году, а сёлета ўзялі ды звольлілі настаўніка Шуляkoўскага і звольлілі тады, як ён ляжаў хворы ў глускай больніцы, аб чым паведаміў Старадароскаму РВК выпіскай з больніцы.

Звольлілі і крышка.

— Няма ў цябе, кажуць, папер, што ты настаўнік.

— Якія-ж паперы, зьдзівіўся Шуляkoўскі, усе-ж ведаюць, што я настаўнік.

— Мала што... паперу давай.

Сабраў настаўнік Шуляkoўскі аб тым, што ён настаўнік, подпісаў нешта каля трохсот сялян і сельсавет пасьведчыў і панёс гэта ў РВК.

— Вось вам і паперы, кажа, аб тым, што я настаўнік.

— Паперы, зьдзівіліся там, гэта-ж подпісы сялян. Які-ж гэта дакумэнт? Ты нам настаяшчыя дай, за подпісамі і пячаткай прапячатаныя, а гэтыя, брат, кінь, не гадзяцца.

Так і звольлілі настаўніка Шуляkoўскага канчаткова.

— І вось я цяпер хворы еджу, каб чаго небудзь дабіцца, але нічога ня выходзе.

Тут мой спадарожнік ізноў схапіўся за бок і пачаў енчыць, бо мы ўвьехалі на грэблю і каламашку так пачало трэсьці, што, здавалася, вытрасе ўсё нутро.

— Ну, а як саюз на гэта глядзіць?—пацікавіўся я.

— Ну, што-ж саюз? Ён нібы бароніць, але калі што будзе, а я цяпер бяз хлеба сяджу...

Я зацікавіўся гэтай справай і, будучы ў Бабруйску, спэцыяльна зайшоў у інспэктарыят асьветы, каб больш дакладна азнаёміцца з лёсам Шуляkoўскага.

— Вы пра Шуляkoўскага Сымона?—зьвольлілі мы яго,—парадавалі мяне ў інспэктарыяце.—Звольлілі за наведваньне царквы і няпісьменнасьць.

— Як за няпісьменнасьць? Ён-жа ў вас настаўнікам быў, 10 год!

— Мала што быў... папер у яго няма, што ён настаўнік.

Вось вам і факт. Быў чалавек настаўнікам, калі ня лічыць даваеннага часу, дык пры савецкай уладзе ўжо 10 год, і раптам аказаўся няпісьменным.

Што гэта? Ці тут зьдзек над настаўнікам, ці другое, ня менш праступнае—нядбайнасьць кіраўнікоў асьветы. Бо пытаньне можна паставіць толькі так: або гр. Шуляkoўскі—настаўнік, або—не.

Калі ён настаўнік, калі верыць таму, што ён кажа: 28 год працы аддаў на ніве народнай асьветы, страціў здароўе і цяпер яго выкідаюць бяз пэнсіі, проста на вуліцу, толькі затым, што ён ня мае паперкі,—гэта ёсьць зьдзек, гэта праступнасьць, за якую і турмы мала.

З другога боку, калі прызнаць, што гр. Шуляkoўскі не настаўнік, калі верыць інспэктарыяту асьветы, што Шуляkoўскі зволен за наведваньне царквы і няпісьменнасьць, дык тут яшчэ большая праступнасьць.—Раз Шуляkoўскі няпісьменны чалавек і царкву наведвае, як-жа ён быў 10 год настаўнікам у савецкай школе? Куды-ж глядзелі кіраўнікі асьветы? Як яны асьмеліліся даручыць няпісьменнаму чалавеку выхаваньне нашых дзяцей? Мог няпісьменны чалавек даць грамату дзіцяці? Значыць, ён яе не даваў. І 10 год не даваў! Куды-ж мы глядзелі?

І калі няпісьменны чалавек 10 год быў настаўнікам і бабруйскія кіраўнікі асьветы гэтага ня бачылі, чым мы пасьля гэтага гарантаваны, што ў Бабруйшчыне такі Шуляkoўскі толькі адзін? А можа іх сярод настаўніцтва 10—30 проц.

Так. Такое пытаньне мы можам паставіць Бабруйскаму інспэктарыяту асьветы. Бо казус з гр. Шуляkoўскім штосьці ня вусім яснае. І мы лічым, што, урэшце, трэба больш дакладна і больш уважліва вырашыць справу з грамадз. Шуляkoўскім—або ён настаўнік, або—не...

Леанід Свэн.

# ПАДРЫХТОЎКА НОВЫХ ПЭДАГОГАЎ КУЛЬТАЕ.

## Пра акадэмічную пасьпяховасьць студэнцтва БДзУ.

У апошнія часы справе акадэмічнай пасьпяховасьці студэнцтва аддаецца асаблівая ўвага з боку арганізацый навучальнай установы, а таксама і з боку ўсей савецкай грамадзкасьці, бо ад посьпехаў на гэтым вучастку працы залежыць якасьць спэцыялістых, што выпускаюць з муроў нашай вышэйшай школы. Дзеля выкананьня гэтай задачы была рэарганізавана ўся праца студэнта, перагледжаны навучальныя пляны, упарадкавана грамадзкая праца і г. д.

Зараз скончана праца па падвядзеньню вынікаў мінулага 1927-28 акадэмічнага году і магчыма зрабіць некаторыя вынікі.

Ці маем мы дасягненьні за апошні год? Адказ здавальняючы даць нельга.

Паглядзім, як абстаіць справа з гэтага боку на Пэдфаку.

Вось лічбы пераведзеных, а значыцца і пасьпяваючых: на сацыяльна-гістарычным аддзяленьні пераведзена на наступны курс толькі 85 проц. студэнтаў, на прыродазнаўчым — 92 проц., на фізыка-матэматычным—95 проц., а на літаратурным—80 проц. У сярэднім па Пэдфаку пакінута на паўторны курс—12 проц. студэнтаў. Калі дадаць, што шэраг студэнтаў зусім не зьявіліся на акадэмічную праверку, і яны выключаны з унівэрсытэту, дык зусім робіцца відавочным, што аб дасягненьнях адносна папярэдняга году гаварыць ня прыходзіцца.

Адной з прычын гэтаму зьяўляецца тое, што унівэрсытэцкія арганізацыі, дабіўшыся некаторых колькасных дасягненьняў у 1926-27 навучальным годзе, супакоіліся. У працягу ўсяго навучальнага году ўвага студэнцтва ня была зьвернута на акадэмічную справу і разам з гэтым не праводзілася рашуча праца па зьнішчэньню перашкод у справе акадэмічнай пасьпяховасьці.

Мы і зараз маем шмат перашкод у гэтым напрамку. Вось некаторыя з іх:

— Студэнты прыродазнаўчага аддзяленьня Пэдфаку нагружаны ў некаторыя дні тыдню па 10-11 гадзін у дзень толькі на лекцыях і практычных занятках, ня лічучы падрыхтоўкі да іх; зусім зразумела якасьць працы і карысьць яе, калі сьпяшацца «абы скончыць» і каб пасьпець на наступную лекцыю, ня кажучы ўжо аб фізычнай немагчымасьці рыхтавацца да заняткаў.

— Студэнты апошняга курсу Пэдфаку ня маюць магчымасьці на працягу навучальнага году рыхтавацца да залікаў, бо габінэты адчынены ў той час, калі адбываюцца лекцыі.

— Нічога ня зроблена да таго, каб яшчэ раз перагледзець нашы навучальныя пляны і выкінуць тое, што магчыма; наадварот, яны паступова пачынаюць зноў папаўняцца ў сувязі з запрашэньнем новых навуковых працаўнікоў.

— У габінэтах і бібліятэцы няма належнага ліку падручнікаў і неабходнай літаратуры; бывае, што на адзіаму падручніку павінны рыхтавацца каля сотні студэнтаў, прычым іншы раз так робіцца проста па нядбайнасьці адпаведных працаўнікоў. Чым, напрыклад, тлумачыць, што не хапае кніжок па курсу «Дыялектыка ў прыродзе», калі яны ёсьць у належнай колькасьці ў Дзяржвыдавецтве РСФСР, і сродкі на гэта ёсьць?

— Дрэнна працуюць і нашы прадметна-вытворчыя камісіі па рацыяналізацыі нашага вучэбнага жыцьця.

Зараз, калі матар'яльнае становішча студэнцтва значна палепшылася, калі з гэтага боку ўтвораны ўмовы для працы, калі справе падрыхтоўкі новых кадраў надаецца вялікае значэньне,—патрэбна шырока разгарнуць працу па ўзьняцьцю акадэмічнай пасьпяховасьці. Уся студэнцкая грамадзкасьць павінна быць мабілізавана на гэты галоўнейшы вучастак—вучобу. Трэба ўзмацніць акадэмічнуюую дысцыпліну сярод студэнцтва, а разам з гэтым, побач з шэрагам іншых мераприёмстваў, набыць адпаведныя падручнікі, бо бяз гэтага галоўнага аружжа пасьпяховасьці не падняць на належную вышыню.

У гэтым годзе трэба дабіцца фактычных посьпехаў на гэтым галоўным фронце студэнта ў ВНУ; трэба дасягнуць ня толькі колькасных, але і якасных дасягненьняў. Льв—ч.

## Зноў пра беларусізацыю ў БДзУ.

Пра беларусізацыю ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце гаварылася ўжо шмат. Нацкамісія ЦВК вынесла адпаведную пастанову аб поўнай беларусізацыі БДзУ ў вызначаны тэрмін. Здавалася-б, што зараз павінен быў-бы назірацца ўжо пэўны пералом у адносінах да беларусізацыі, але, на жаль, сярод студэнцтва гэтага ня відаць. Праўленьне унівэрсытэту прыняло шэраг крокаў, каб перавесьці выкладаньне на беларускую мову, прапанавана было навуковым працаўнікам ня прымаць залікаў на расейскай мове і г. д. Аднак, мы маем шэраг студэнтаў, якія ўпарта не жадаюць беларусізавацца, лічучы гэта зусім непатрэбнай справай.

Да гэтага часу беларуская мова мала ўжываецца ў штодзённай працы студэнта, паміж сабой гутарка вядзецца амаль што выключна на расейскай мове. На занятках, нават на тых курсах, на якіх навуковы працаўнік чытае лекцыі на беларускай мове, студэнты выказваюцца па-расейску.

Вось некалькі прыкладаў са штодзённага унівэрсытэцкага жыцьця.

Студэнт, добра ведаючы беларускую мову, робіць даклад на сэмінарскіх занятках на расейскай мове, бо калі ён будзе гаварыць на беларускай мове, дык яго ня будуць слухаць, будуць перашкаджаць і, урэшце, абгаварэньня дакладу ня будзе. Асабліва гэта характэрна для некаторых курсаў Правгасу, сацыяльна-гістарычнага і фізыка-матыматычнага аддзяленьняў Пэдфаку.

А вось і другі прыклад: прафэсар патрабуе ў часе заліковай сэсіі адказваць пры здачы заліку на беларускай мове, а студэнтка (зараз ужо 4-га курсу фізмату) упарта нібы ня чуе і шпарыць далей па-расейску, і толькі калі прафэсар адмовіўся слухаць яе, яна пачала адказваць па-беларуску, прычым уладала мовай больш-менш добра. Гэтак беларусізуецца студэнтка БДзУ Чабатарэвіч.

Калі па сходзе выказвалася студ. Праўгасу, і яе папрасілі з залі гаварыць па-беларуску, дык пачулі адказ „а я не магу" гэтая студэнтка Беленькая ўжо трэці год у унівэрсытэце,—калі-ж яна, урэшце, вывучыць мову?

Адзін студэнт падаў заяву ў дэканат Пэдфаку і напісаў яе на расейскай мове, і калі яго папрасілі перапісаць на беларускую, дык ён з абурэньнем пратэставаў, заяўляючы, што расейская мова—адна з чатырох дзяржаўных моў, а таму ён мае права падаць заявы на любой з іх.

Мы маем і яшчэ адну заяву. Новы прыём гэтага году, які добра здаў прыймовыя іспыты па беларускай мове пры паступленьні ў унівэрсытэт, зараз таксама пачынае пераходзіць на расейскую мову. Аб гэтым сьведчаць тыя сэмінарскія занякі, якія адбыліся на працягу першых двух месяцаў навучальнага пляну.

Трэба прыняць рашучыя меры да зьнішчэньня неахайных адносінаў да беларусізацыі. Упарта не жадаючым беларусізавацца ня месца ў Беларускім унівэрсытэце.

Усё студэнцтва павінна быць прыцягнута на дапамогу беларусізацыі унівэрсытэту.

Разам з гэтым трэба ўстанавіць як часовую меру—не пераводзіць на наступны курс ня ведаючых мову. Неабходна на апошнім курсе зрабіць праверку ведаў беларускай мовы ў часе зімовых вакацый, бо калі будуць вясной здаваць апошнія залікі, тады будзе ўжо позна. Неабходна рашучая барацьба з коснасьцю сярод тэй часткі, якая перашкаджае беларусізацыі; ня трэба спыняцца нават перад выключэньнем з унівэрсытэту.

У свой час было пастаўлена пытаньне аб выданьні падручнікаў для ВНУ на беларускай мове. Нацкамісія запрапанавала Белдзяржвыдавецтву ўзяцца за гэтую справу. Пакуль што ніводнага падручніка мы не атрымалі. Што чутно ў гэтым напрамку—студэнцтву невядома.

Патрэбна больш увагі і штодзённай працы ў БДзУ ў справе беларусізацыі.

Студэнт.

З. БЯДУЛЯ.

# НАСТАЎНІЦА СТЭФКА.

**(Урывак з аповесьці „Язэп Крушынскі“).**

Настаўніца Стэфка ў вёсцы ніколі ня жыла. У першыя дні нават баялася адна пайсьці гуляць далей гумна. У гэтым выпадку яе выхаванцы, дзяўчаткі Крушынскага і яшчэ некалькіх сялян, зрабіліся яе настаўнікамі. Яны паказваюць „цёці“ (так дзеці называюць настаўніцу) усе цікавыя куткі на полі, водзяць да рэчкі, у лес.

У часе такіх гулянак дзеці шчабечуць:

— А гэта канюшына!

— А гэта авёс!

— А гэта віка!

— А гэта гарох!

— А гэта жыта!

— А гэта што? Прылады для гімнастыкі?—пытаецца «цёця».

— Не-ээ! Гэта азярод...

Такім чынам, дзяўчаткі зрабіліся настаўніцамі «цёці», бо яна ніколі вёску ня бачыла ў натуры.

Кожны новы куток для яе—цікавая вынаходка. Яна знаёміцца з вакольнай прыродай, нібы з жывымі істотамі.

Часам сама пытаецца ў дзяцей аб тым, аб сім:

— Што гэта за ўзгоркі вунь там?

— А гэта курганы.

— Што такое курганы?

— Узгоркі...

Выглядала, нібы сталыя людзі навучаюць малевькую дзяўчынку, займаюцца яе выхаваньнем.

Такая роль дзецям вельмі падабаецца. Яны палюбілі «цёцю», адчувалі ў ёй сяброўку, якая з часам, калі падвучыцца, будзе вельмі карыснай у гульнях.

Ад дзіцячай шчырасьці, калі больш асвоіліся з настаўніцай, яны часам рабілі ёй заўвагі:

— Цёця нічога ня ведае...

— Цёця—самая малая з малых...

«Цёця» чырванела і сапраўды ня ведала, што на гэта адказаць.

Пасьля такіх заўваг, Стэфка перастала задаваць дзецям такія запытаньні, дзе магло выказвацца яе няведаньне. Яна пачала прыдумваць спосабы навучаньня і выхаваньня дзяцей, дзе яна магла-б быць ня ў ролі вучаніцы, а настаўніцы.

— Трэба будзе, апрача гульняў, пачаць вучыць іх чытаць і пісаць.

Тут уся ўвага Стэфкі была зьвернута на старэйшую вучаніцу:

— Што ты, Настачка, умееш?

Настачка са зьдзіўленьнем зірнула на „цёцю“.

— Усё ўмею...

— А што? Чытаць можа ўмееш?

— Не... я ўмею езьдзіць на кані. Часта татка садзіць мяне конна. Умею бульбу скрабсьці, арфу круціць у таку, пацеркі з рабін на ніткі насоўваць. Усё ўмею: танцаваць, рыбу лавіць з хлопчыкамі, скарбаў шукаць у лесе. Усё ўмею!

Шчырая ўпэўненасьць чулася ў голасе Настачкі.

— Настачка і сьпяваць умее!—дадала другая дзяўчынка.

— Вось гэта добра! Вельмі добра! Настаўніца ўзрадавалася. Са сьпеваў трэба было і пачаць.

— Засьпявай што колечы!

Настачка запяяла:

Нашу вёску Курганішча
можна горадам назваць.
Сорак хат і дзесяць вуліц—
негдзе з мілым пастаяць.

Настачка, як дарослая вясковая дзяўчына, зацягвала дрындушку. Рабіла пры гэтым розныя выкрутасы. Сьпявала гульлівым галаском. Паднімала плечыкі, махала рукамі, быццам во-во пусьціцца скакаць, быццам ёй акампануе гармонік.

— Засьпявай яшчэ!

Настачка кашлянула і сьмялей зацягнула:

Харашо цібе, каліна—
На цібе шырокай ліст,
Харашо цібе, падружка—
Цібе любіць камуніст!

Другую дрындушку Настачка сьпявала на манеру першай: працягла, на той самы матыў. Галасок ад пісклівасьці пераходзіў у грубаватага сапрано. Відаць, што капіравала дарослых дзяўчат.

Першы раз у жыцьці чула Стэфка такія песьні, ня гледзячы на тое, што сама ведала шмат „рамансаў“. Яна сама любіць сьпяваць. У яе ня кепск голас. Песьні Настачкі ёй падабаліся сваёй жвавасьцю, гульлівасьцю; таксама цікавае было выконваньне: як Настачка падраблялася пад «вялікую дзеўку». Яна, Стэфка, сама з прыемнасьцю гатова навучыцца так сьпяваць. Нават зайздросьціць дзяўчынцы. Але адчувае, што для дзяцей такія сьпевы не падыходзяць. Дзеці ад гэтага толькі псуюцца.

Яна ўжо некалькі дзён шукала патрэбнага тону, як гаварыць з дзяцьмі. Толькі нялёгка ўдавалася яго знайсьці. Цяжка было ёй знаходзіць тое, што да гэтага часу ніколі ня шукала і ня ведала, як яно павінна выглядаць.

Якім тонам ня пробавала гаварыць з дзяцьмі—усё ня выходзіла: то вельмі па панібрацку, а то праз меру строга.

У першым выпадку дзеці не адчувалі ў ёй аўтарытэту, у апошнім—глядзелі на яе, як на чужую.

Яна перабірала ў памяці тон сваіх настаўнікаў і настаўніц. Часам, будучы адной, нават прабавала практыкавацца ўголас, пакуль не знайшла патрэбнага тону і выгляду твару пры гэтым. Самае лепшае—гэта тон шчырасьці, тон старэйшага таварыша да маладзейшага.

Такім чынам першыя крокі самастойнага жыцьця прымушалі Стэфку задумвацца, назіраць над людзьмі і падзеямі. Да гэтага дня яна ніколі сур'ёзна такой справай не займалася.

— Такія песьні, Настачка, сьпяваць табе ня трэба!—сказала „цёця“, пагладзіла дзяўчынку па галоўцы і глыбока зірнула ёй у вочы.

— Чаму?—запыталася Настачка.— У нас усе сьпяваюць.

— Так сьпяваюць вялікія, а для маленькіх, як ты, ёсьць зусім іншыя песьні.

Тут Стэфка пацікавілася даведацца, што Настачка яшчэ ўмее сьпяваць. Магчыма, што ў яе „рэпэртуары“ ёсьць і для дзяцей добрыя песьні.

Большую частку ўвагі яна накіравала на Настачку, хоць і іншыя дзеці былі такога самага ўзросту і ня менш сталыя. Стэфка наогул дзівілася надзвычайнай сталасьці і самастойнасьці вясковых дзяцей у параўнаньні з гарадзкімі. Яна часта бачыла ў горадзе, як такіх дзяўчатак маткі трымаюць на каленях і кормяць.

Яна зноў папрасіла Настачку:

— Засьпявай цяпер новую песьню, але не такую, як ранейшыя. Не такую... Ну...

Яна шукала слова, якім можна было вразумела ахарактарызаваць дрындушку.

... Не такую вясёлую.

Настачка доўга думала:

— Ага.. успомніла!

Яна ўсьміхнулася, як акторка на сцэне, і прыняла зусім новую позу. Нават выгляд вачэй зьмяніўся. У іх пагас вечны дзіцячы агеньчык сьмеху. Яна лёгка кашлянула і скосу зірнула па баках. Адна дзяўчынка высунула ў гэты час чырвоны вільготны язычок. Настачка ўскалыхнула плечыкамі і хіхікнула. Засьмяяліся ўсе дзеці.

„Цёця“ маўчала. На яе твары ня было ні прыемнасьці, ні нездаволенасьці. Яна маўчала і наглядала.

Настачка падняла на яе вочы. Засаромілася, пачырванела, змоўкла і апусьціла галоўку.

„Цёця“ пагладзіла яе па валасох.

Настачка зноў прыняла позу. Вочы яе завалакліся туманам суму. Ручкамі то бралася за вопратку, то папраўляла валасы. Відаць было, што яна ня ведае, дзе падзець рукі. Нарэшце, апусьціла іх уніз. Яны віселі па абодвых баках, цененькія, загарэлыя, голыя да плечыкаў—нават пальчыкамі ня рухала.

Яна зацягнула новую песьню:

Капайце, капайце магілу
У вішнёвым саду.
Схавайце, схавайце міне маладу
І ўзнавайце, каго я верна люблю-у-у...

Песьня была жаласьлівая, сумная да сьлёз, падобная мэлёдыяй да хаўтурных галашэньняў вясковых людзей.

Прыкра стала „цёці“ ад гэтай песьні, да таго не па сабе, аж яна нэрвова замахала рукамі і сказала:

— Досыць, Настачка... змоўкні...

Дзяўчынка спыніла песьню і з дзівам зірнула на «цёцю».

— Я вас, дзеці, навучу прыгажэйшыя песьні сьпяваць,—сказала Стэфка.

— Навучаце! Навучаце!—крыкнулі хорам усе дзеці і скакалі ад радасьці.

— І ў розныя гульні гуляць будзем!—дадала «цёця».

Дзеці ў вялікім захапленьні білі ў далошкі, выдавалі крыкі бяз слоў.

Такім чынам павольна і асьцярожна, каб ня страціць аўтарытэту ў дзяцей, Стэфка ў іх саміх вучылася, што рабіць і як вучыць іх.

Трэба было запоўніць кожны раз працоўны дзень з дзяцьмі, якія ніводнай хвіліны не маглі быць бяз руху.

Кожны дзень многа пар рознакаляровых дзіцячых вочак глядзелі на „цёцю“ з зацікаўленасьцю, з запытаньнем:

— Што мы будзем сягоньня рабіць?

Гульні, песьні, маляваньне, пачаткі чытаньня са старэйшымі.

Стэфка была спачатку вельмі захоплена новай працай. Ня мела часу прыглядацца да дарослых людзей у Бурганішчы. Ёй здавалася, што дзеці——самая лепшая для яе кампанія.

У хмурныя дні яна займалася з малымі ў салёне, у пагодныя—на полі. Тады да іх далучалася грамада іншых дзяцей, хлопчыкі і дзяўчаткі, якія яшчэ ня вучыліся.

«Цёця» на жывых прыкладах паказвала сваім выхаванцам на тое, чаго ня можна. Узорам усяго адмоўнага і нядобрага была «вольная» грамада вясковых дзяцей.

— Вось такіх брыдкіх слоў, як яны гавораць, вам гаварыць ня можна!

— Ня можна так, як яны, капацца ў пяску і плёхкацца ў рэчцы!

— Глядзеце, якія яны брудныя. Вам ня можна быць такімі!

— Во, як яны б'юцца! Вам гэта забараняецца!

— Ня можна так бегаць бяз толку, як яны!

Кожны раз пры сустрэчы з грамадою вясковых дзяцей „цёця“ паказвала ўсё новыя і новыя «ня можна».

Іншыя дзеці служылі для вучняў жывой лябараторыяй усялякіх «ня можна».

Часам „цёця“ наўмысьня старалася пры гульнях у полі падыходзіць бліжэй да грамады самапасных дзяцей, каб паказваць сваім выхаванцам што-кольвечы новае, чаго «ня можна». Жывая кніга пэдагогікі захапляла яе. З гэтай крыніцы яна арыгінальным чынам чарпала настаўніцкія веды. Ёй здавалася, што чым больш «ня можна» яна пакажа сваёй групы, тым лепш.

Але мэтад Стэфкі выклікаў зусім непажаданыя вынікі: дзеці падзяліліся на два лягеры. У гэтых лягерах спачатку вытварылася лёгкая ўзаемная няпрыязьнь, якая павольна перайшла ў варожасьць. Дайшло да таго, што нельга было ўжо бліжэй падпускаць «вольную» грамаду дзяцей да сваёй групкі. Тыя біліся. Кідалі на дзяцей Стэфкі пяском, а часам каменьчыкамі.

Са свайго боку, групка Стэфкі, пранікнутая сьвядомасьцю аб тым, чаго «ня можна», вельмі добра памятала некальkі дзесяткаў такіх «ня можна». Кожнае „не“ выклікала ў уяўленьні іх вельмі прывабную карцінку. Зажадалася рабіць якраз усё забароненае, да такіх «злачынкаў» цягнула..

І вось патрохі групка Стэфкі пачынала ўжываць гэтае „ня можна“ якраз адваротна таму, чаму вучыла маладая настаўніца. Мала таго, Стэфка сваімі стараньнямі паказваць ім як найбольш «ня можна» дала ім вельмі багаты каталёг цікавых учынкаў, аб існаваньні якіх яе групка раней і ня ведала, бо толькі цяпер яны выпукляліся перад дзяцьмі, дзякуючы падкрэсьліваньню настаўніцы.

Паміж Стэфкай і дзяцьмі пачалося змаганьне, часамі досыць вострае і няпрыемнае. Прыходзілася прасіць бацькоў на дапамогу. Дапамога была адна:

— Біць!

Білі дзяцей бацькі, запрапанавалі рабіць тое самае і настаўніцы. Далі ёй на гэта права.

І скончылася ідылія паміж Стэфкай і яе групкай дзяцей—тая ідылія, якая захапляла настаўніцу пры першым знаёмстве з дзяцьмі.

Бацькі дзяцей гэтага не заўважылі. Яны лічылі ўсё гэта звычайным і нармальным: дзеці ня слухаюцца, а іх лупцуюць. Аднак, Стэфка адчувала сябе кепска. Ня ведала, што рабіць.

# Няма магчымасьці нармальна працаваць.

## (Пра навучальна-практыкавальныя майстэрні Аршаншчыны).

Навучальна-практыкавальныя майстэрні, пакольki я іх ведаю, можна аднесьці да ўстаноў „бяспрытульных“: калі яны ў матар'яльных адносінах належаць да райвыканкомаў, дык у мэтадычна-выхаваўчых, праграмных і г. д.—невядома да каго.

Ня маюць яны сталых праграм як па агульна-адукацыйных прадметах, так і па спэцыяльных аддзяленьнях. Няма тут сталых норм працы інструктарскаму пэрсаналу і іх аплаты. Ня ведае ясна сваёй нагрузкі і настаўнік, які ў некаторых майстэрнях атрымлівае пэнсію—аклад за 20 гадзін (Коханава), а дзе за 24 гадз. (Цяцерына).

Складаньне каштарысаў у раёнах па ўтрыманьню майстэрняў—балючае пытаньне для ўсіх. Недахоп сродкаў у раёнах не дае магчымасьці нават і на 40-50 проц. задаволіць патрэбы, і далейшае жыцьцё майстэрняў на працягу навучальнага году залежыць ад прыватных заказаў, якія шкадліва адбіваюцца на распрацоўцы праграмнага матар'ялу.

Сталых праграм ад НКА няма, і майстэрням самім штогод прыходзіцца складаць арыентыровачныя праграмы.

Пытаньне ўстанаўленьня ставак працаўнікам кожны год становіцца нейкай фізкультурнай чахардой, і кожная бюджэтная камісія выказвае свае здольнасьці: адна ўзьнясе высока, а другая зьнізіць, і працаўнікі спачатку бюджэтнага году доўгі час працуюць упацёмку, ня ведаючы свайго лёсу.

Матар'яльны бок установы і працаўнікоў нездавальняючы.

Яшчэ адной ненармальнасьцю трэба лічыць прыёмны ўзрост. У той час, калі для прыёму ў прафтэхн. школу ўстанаўліваецца ўзрост у 15 г.—у майстэрню, разьлічаную для падросткаў,—13 год., што дае магчымасьць вясковаму хлопцу па сканчэньні вясковай школы адразу паступаць у майстэрню і ў 16 год станавіцца самастойным саматужнікам.

Пара ўжо зьнішчыць усе ненармальныя зьявішчы ў навукова-практыкавальных майстэрнях. У першую чаргу трэба нармаваць працу інструктараў і настаўнікаў, устанавіць цьвёрдыя стаўкі, штаты, бо штаты РСІ, апублікаваныя ў № 9 Бюлетэню СНК, не ажыцьцёўлены, устанавіць аплату кватэрным працаўнікам, а самае галоўнае—выправіць прыёмны ўзрост, даць сталыя праграмы і нормы забясьпечаньня па розных выдатках.

Бяляеў А.

# Сучасныя праграмна-мэтадычныя пытаньні.

Да гэтага часу ў нас грамадзка-палітычная праца з дзяцьмі ў школе носіць больш палітыка-асьветны характар і большаю часткаю праводзіцца па мэтадах працы з дарослымі. А паміж іншым, праца з дзяцьмі ў некальні раз цяжэйшая. Узяць к прыкладу, хаця-бы пытаньне антырэлігійнага выхаваньня. Тут настаўніку патрэбна ня толькі знаць гэты прадмет, ня толькі трэба прачытаць тую ці іншую кнігу антырэлігійнага зьместу, але, галоўнае, трэба ведаць, як падыйсьці з гэтым матар'ялам да дзіцяці, як зрабіць увязку гэтага матар'ялу са ўсёй выхаваўчай працай, як прыстасаваць да ўзросту, а таксама да інтарэсаў дзяцей і гэтак далей. Вось у чым увесь цяжар пытаньня, вось—галоўная задача.

Дзеля пасьпяховасьці працы ў гэтай галіне настаўніку, разумеецца, патрэбна належная літаратура, але канкрэтызаваць гэтую працу можна толькі на падставе вучоту досьледаў, вывучэньня практыкі і на падставе вытворчага падыходу настаўніка да справы. Праца павінна быць арганізавана, у гэтую працу павінны быць уцягнуты ўсе лепшыя сілы, але актыўнасьць настаўніцтва зьяўляецца асноўнай падставай посьпеху—вось на гэтым настаўніцтва і павінна завастрыць сваю ўвагу.

У нас ёсьць пытаньні, на якія асабліва трэба налегчы, гэта—пытаньні антырэлігійнай працы, інтэрнацыянальнага выхаваньня, грамадзка-карыснай, клюбна-гуртковай і пазашкольнай рознага віду, прычым усе гэтыя пытаньні павінны ўзьвязвацца ня толькі ў працэсе працы па грамадазнаўству, а і ва ўсёй школьнай працы. Трэба прыдаць марксыцкі напрамак у адносінах усіх школьных дысцыплін, а ня лічыць, што марксызм—гэта справа грамадазнаўства, іншыхжа дысцыплін—справа агульнакультурная. Любы від школьнай працы павінен быць прасякнут марксыцкім сьветапоглядам.

А як абстаіць у нас справа са сьпевамі? Тут ужо закрываць вачэй ня прыходзіцца: у школе мы паём мала і паём дрэнна, адгэтуль у дзяцей нездаволеньне, вось таму мы часам чуем ад дзяцей: «Хаджу ў царкву таму, што там хораша пяюць». Вядома, што гэта ня ёсьць нешта агульнае, але з гэтага відаць ужо неабходнасьць поўнага скарыстаньня намі ўсяго багацьця, «аналізатараў» падрастаючага чалавека.

У нашай штодзённай працы значнае месца павінна займаць праца педалёгічнага характару. У гэтай галіне ў нас працы непачаты край. Узяць к прыкладу хоць-бы нашы праграмы. Амаль што ўсе і ў адзін голас ня толькі кажуць, але і крычаць, што праграмы цяжкія, не адпавядаюць узросту вучняў і г. д., а ў чым гэта цяжкасьць, якую частку цяжкасьці аднесьці за лік самых праграм, а якую за лік самых настаўнікаў—мы ня ведаем. Яшчэ, здаецца, і да гэтага часу нікім ня была зроблена ні праверка, ні вывучэньне гэтых самых праграм. Узяць хоць-бы праграму пятай клясы на беларускай літаратуры, у прыватнасьці па тэорыі паэзіі. У праграму ўваходзіць мова празаічная і мова вершаваная, стапа, ямб, харэй, дактыль, амфібрах, анапэст, эпітэты, мэтафоры, параўнаньні, рыфма аднаскладовая, двухскладовая і дактылічная. Трэба сказаць праўду, што азначаны матар'ял занадта цяжкі для вучняў пятае клясы. Аб тым, што дзеці гэтага ўзросту лягчэй устрымуць лірычную творчасьць, яе віды, мову дыялёгічную, монолёгічную, віды драм і г. д., пытаньне, мне здаецца, бясспрэчнае, а паміж іншым, гэты матар'ял аднесены ў праграму шостае клясы. Далей—вусная народная творчасьць амаль цалкам уваходзіць у праграму сёмай клясы, а чаму не ў праграму пятае клясы? Няўжо вучню пятае клясы лягчэй дасца рыфма дактылічная і іншае, чымся той ці іншы від вуснай народнай творчасьці? На чым тут грунтуецца праграма, сказаць цяжка, але што яна грунтуецца і не на разумовым, і не на фізычным разьвіцьці вучня, гэта—факт.

А ці гаворыцца ў праграме сёмае клясы сямігодкі адносна падагуленьня матар'ялу за ўвесь курс сямігодкі? Гаворыцца вельмі мала, а больш правільна будзе сказаць—нічога аб гэтым не гаворыцца. Вось таму і ня дзіва, што на выпускных калёквіумах паміж настаўнікамі і да гэтага часу адбываюцца спрэчкі: адны патрабуюць ведаў ад выпускнікоў за ўвесь курс сямігодкі, а другія—толькі за курс сёмай клясы.

А ўзяць дзіцячыя кніжкі. Колькі сухасьці, колькі, як кажуць, «дзелавітасьці»! Рабочая кніга павінна памагаць дзіцяці разьвіваць актыўнасьць, не павінна быць такой, па якой можна вучыцца толькі з настаўнікам; рабочая кніга павінна быць стымулам для грамадзка-карыснай працы, разам з тым яна павінна захоўваць мастацкасьць, павінна захапляць інтарэс дзяцей, але на справе ня зусім так.

Гэтыя пытаньні патрабуюць глыбокага аналізу і глыбокага вывучэньня. Разам з гэтым трэба адзначыць, што мы мала знаёмы з элемэнтарнай педалёгіяй, а знаёмства гэта неабходна для кожнага настаўніка, бо ў іншым выпадку праца наша ня можа быць пастаўлена правільна, тым больш такая складаная праца, як грамадзка-палітычнае выхаваньне, якое ад нас патрабуе выхаваньня ня толькі культурнага, але і чалавека-рэвалюцыянэра.

Гэтыя пытаньні бягучага моманту, і таму яны заслугоўваюць асаблівае ўвагі.

**Антон Лёсік.**

*Койданава.*

---

# Сыстэму народнай асьветы ўхваліць.

(Гор. Амсьціслаўль).

Гэтымі днямі працоўныя масы і асьветнікі гор. Амсьціслаўля абгаварвалі сыстэму народнай асьветы БССР як яна прапанавана т. Баліцкім. Даклад і спрэчкі па ім вяліся каля чатырох гадзін.

У спрэчках шмат месца было адведзена пастаноўцы выхаваўчай часткі ў нашых навуч. установах, без чаго немагчыма абгаварыць і самую сыстэму.

Прадстаўнікі ад рабочых і саматужнікаў асаблівую ўвагу зьвярталі на разьвіцьцё прафэсыянальнай асьветы, на пашырэньне сеткі прафшкол і тэхнікумаў. Разам з тым скардзіліся на недахоп падручнікаў, пісьмовых прылад і інш., хоць гэтыя пытаньні непасрэднага дачыненьня да сыстэмы і ня маюць. Скардзіліся і на тое, што шмат дзяцей, скончыўшых пачатковую школу, застаецца па-за сьценамі сямігодак.

Пасьля ўсебаковага абгаварэньня пастаўленага пытаньня прынята наступнае: сыстэму ўхваліць, але ўнесьці некаторыя зьмены; прафшколы будаваць над сямігодкамі; лічыць патрэбным існаваньне падрыхтоўчых груп для скончыўшых вясковыя школы, школы сялянскай моладзі вынесьці ў дапаможную сыстэму, бо сямігодкі на вёсцы ўсе павінны насіць с.-г. ухіл, акадэмію навук і дасьледчы інстытут з сыстэмы народнай асьветы выключыць, бо гэта навуковыя ўстановы і ў сыстэму ўваходзіць не павінны.

**Мясцовы.**

# Мазырскі АВК—на дапамогу краязнаўчай справе.

Вопыт працы краязнаўчых арганізацый на працягу апошніх двох-трох год паказвае, што рост краязнаўчых арганізацый і пасьпяховасьць іх працы знаходзяцца ў простай залежнасьці ад таго, якія адносіны да гэтай справы навіраюцца з боку мясцовых органаў улады: ёсьць спачуваньне і дапамога—праца разьвіваецца, і наадварот.

Вельмі паказальным прыкладам у гэтым напрамку зьяўляецца Мазырская акруга.

Там, як з боку акруговага выканаўчага камітэту, гэтак і з боку амаль што ўсіх райвыканкомаў, надзвычайна чулыя і спачуваючыя адносіны да пытаньняў краязнаўства. З прычыны гэтага па ўсёй акрузе краязнаўчая справа сапраўды разгарнулася ў шырокі грамадзкі рух.

На працягу трэцяга году Мазырскі АВК адпускае пэўныя сродкі на дапамогу акруговаму таварыству краязнаўства і па ўтрыманьне спэцыяльнага працаўніка па краязнаўству. Прыкладам АВК кіруюцца і райвыканкомы і гэксама робяць магчымую дапамогу.

АВК і райвыканкомы заслухоўваюць справаздачы мясцовых краязнаўчых арганізацый на сваіх пасяджэньнях і даюць неабходныя ўказаньні ў працы.

Самым паказальным у гэтым кірунку зьяўляецца пасяджэньне Мазырскага акрвыканкому ад 4 верасьня гэтага году, на якім была заслухана справаздача Мазырскага акруговага таварыства краязнаўства. Па дакладу таварыства прэзыдыум АВК сьцьвердзіў, што краязнаўчая справа па акрузе разгортваецца ўсё больш і больш і ахоплівае сваім вывучэньнем усе галіны жыцьця Мазыршчыны. Праведзены досыць каштоўныя па свайму значэньню і зьместу дасьледчыя работы ў справе вывучэньня прыроды, гаспадаркі, помнікаў старажытнасьці, а менавіта: зроблена 10 манаграфій паселішч, сабрана 321 назва геаграфічнага слоўніка, 500 экс. гэрбарыя, 1556 слоў розных назваў расьлін, 21000 картак слоў па дыялекталёгіі. Заснаваны чатыры краязнаўчых музэі па акрузе і інш.

У далейшай працы прэзыдыум АВК дае таварыству краязнаўства наступныя ўказаньні: пашырыць сетку вясковых краязнаўчых гурткоў з тым, каб ахапіць шырокія масы працоўных, разам з мясцовымі органамі ўлады (райвыканкомамі, сельсаветамі), даецца дырэктыва папулярызаваць пытаньні краязнаўства сярод шырокіх колаў сялянства, паладзіць сталае інструктаваньне мясцовых краязнаўчых арганізацый. Дзеля падрыхтоўкі кіраўнікоў па краязнаўству паслаць пяць працаўнікоў на курсы па краязнаўству ў г. Менск.

Даецца дырэктыва ўсім райвыканкомам і сельсаветам аб падтрыманьні краязнаўчай справы на мясцох, а Мазырскаму, Тураўскаму, Азарыцкаму і Капаткевіцкаму гарсаветам прапанована адвесьці адпаведныя памяшканьні для музэяў.

Дадзены таксама дырэктывы аб увязцы працы краязнаўчага таварыства з плянавай камісіяй і іншымі дасьледчымі ўстановамі.

Вось прыклад, як трэба адносіцца да пытаньняў культурнай справы. Зусім зразумела, чаму па Мазыршчыне краязнаўчыя арганізацыі не распадаюцца, а растуць. Зусім слушна, што пры такой установцы можна чакаць і вымагаць належных вынікаў у працы.

А. Казак.

# Аб арганізацыі аддзелу асьветы пры раённых краязнаўчых музэях.

Да думак т. Архіпава, закранутых у арт. «Аб раённых школьных музэях»*), трэба адвесьціся са ўсёю сур'ёзнасьцю ўсім асьветнікам таму, што толькі ўмелай канцэнтрацыяй сродкаў і вопыту асьветніцкае вытворчасьці можна найхутчэйшым шляхам паставіць рацыянальна справу выхаваньня новага чалавека, чалавека сацыялістычнага жыцьця.

Пытаньне гэта закранаецца т. Архіпавым крыху аднабакова і галоўным чынам датыча пытаньня аб захоўваньні вынікаў працы школ, пэдрад сельсавету і раённага мэтбюро дачага году.

Высоўваць пытаньне аб арганізацыі школьнага раённага музэю, як самадаўлеючай нейкай адзінкі, у час канцэнтрацыі ўсіх сіл вытворчасьці краіны, ня зусім мэтазгодна, а падругое, калі дапусьціць магчымасьць арганізацыі такога музэю, то сабраць яго настаўнікі як-небудзь змогуць, але захаваць яго ў належным парадку за адсутнасьцю матар'яльных магчымасьцяў і мэтавай установкі—выхоўваць новага чалавека ня толькі працай над ім самім, але і вынікамі працы—ня можна.

Зусім відавочна, што арганізацыю аддзяленьня раённага музэю асьветніцкае працы можна зрабіць сіламі не адных толькі школьных працаўнікоў, а ўсёй працай асьветніцкае масы і па ўсіх напрамках яе жыцьця. Калі так глядзець на справу, то тут-жа павінна паўстаць пытаньне, як-жа арганізаваць справу па зьбіраньню такога музэю?

Асяродкам такое справы павінна зьявіцца раённае краязнаўчае таварыства, а месцам захоўваньня матар'ялу павінен быць раённы краязнаўчы музэй.

Асьветнікам, як галоўнай пакуль што масе краязнаўцаў, патрэбна зьявіцца пачынальнікамі ў гэтым кірунку, і самымі сур'ёзнымі зьбіральнікамі належнага матар'ялу.

Усю працу трэба падзяліць на гістарычны бок і сучасны. Гістарычны бок можна выявіць анкетным спосабам, а сучасны—зьбіраньнем і канцэнтрацыяй матар'ялаў, характарызуючых статыку і дынаміку асьветніцкае працы. Прычым працу можна наладзіць так, каб на працягу гэтага году быў палажан пачатак гэтаму асьветніцкаму аддзяленьню раённага краязнаўчага музэю.

Практычна працу гэту можна выканаць так:

1. Раённым краязнаўчым т-вам неабходна: а) скласьці значных размераў (3-хкілёмэтравую) карту раёну, на якую нанесьці асьветныя ўстановы розных тыпаў, адзначаючы іх умоўнымі фарбамі, як год заснаваньня, так і тып установы; прычым фарбы, адзначаючыя годы заснаваньня, павінны зьмяняцца, а фарбы ўмоўных адзнак асьветных установаў павінны захоўвацца; б) гэтыя-ж раённыя т-вы павінны скласьці, прыстасоўваючыся да мясцовых умоў, належную анкету, якая ахапіла-б статыстыку і дынаміку асьветных устаноў да рэвалюцыі 1917 году, парыяд вайсковага камунізму і парыяд пашага (мірнага) спакойнага рэвалюцыйнага будаўніцтва; пры гэтым усе весткі патрэбна ілюстраваць, дзе гэта магчыма, належнымі дакумантамі і матар'яламі; в) кожны год складаць належную інструкцыю дзеля зьбору неабходнага матар'ялу асьвет. устаноў раёну, характарызуючага жыцьцё іх у даным годзе. Інструкцыю рассылаць на месцы, сачыць за выкананьнем яе і апрацоўваць дасланы матар'ял.

2. Асьветніцкія масы павінны добрасумленна і хутка даваць адказы на анкетныя запытаньні, дасылаць кожны год, згодна інструкцыі, належны матар'ял. Адбітак усякіх вестак і матар'ялаў (калі ён цікавы) пакідаць у сваёй установе, запісваючы ўсё ў асобную справу, што складала-б характарыстыку жыцьця і працы ўстановы.

3. Мэтбюро павінна сваю працу і працу пэдрад сельсавету кожны год канцэнтраваць і адбіткі накіроўваць у раённы краязнаўчы музэй.

Калі распрацаваць канкрэтна матар'ял у азначаных напрамках і належным чынам аб'яднаць яго ў раённым краязнаўчым музэі, дык можна было-б з упэўненасьцю сказаць, што такое аддзяленьне музэю асьветніцкае працы дало-б поўны малюнак пастановкі асьветы і выхаваньня ў даным раёне, што і служыла-б вялікім выхаваўчым матар'ялам ня толькі для асьветніцкае масы, але выхоўвала-б усіх наведвальнікаў раённага краязн. музэю.

І. Грынкевіч.

*) „Працаўнік Асьветы“ № 12, дадатак да газэты «С.Б.» ад 28-X 1928 г. № 250.

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА.

**Я. МАЎР. «Сын Вады».** *Аповесьць з жыцьця на Вогненнай Зямлі. БДВ. Менск, 1928 г. Стар. 106. Цана 80 кап.*

Даная кніжачка для дзяцей зьяўляецца трэцяй працай аўтара ў гэтым годзе. Яна малюе мізэрнае жыцьцё жыхароў Вогненай Зямлі (паўднёвага краю Паўднёвай Амэрыкі, ля Магаляпавай пратокі) іх побыт, простыя дзікунскія звычаі і пераносіць аднаго дасьціпнага жыхара Манга ў Лёндан, дзе выратаваная ім дачка англійскага капіталістага прыстроіла яго на службу ў шыны рэстаран „Космополіт", дзе „сярод сотні афіцыянтаў нельга ўбачыць і двух, якія належалі-б да адной нацыі". Далей—невялікія абразкі з паднявольнага жыцьця гэтых самых афіцыянтаў, магутнасьць, нечалавечнасьць англійскіх і, зразумела, усіх капіталістых, для якіх у гэтым рэстаране «здаецца ўвесь сьвет сабраўся, каб ім служыць». Потым „праз тры дні", калі выехала ў падарож „апякунка" Манга,—«Манга звольнілі з пасады» і ён пачаў бадзяцца беспрацоўным «па імглістых вуліцах Лёндану».

Кніжка чытаецца лёгка і з захапленьнем, дае шмат бытавога ды географічнага матар'ялу, паказвае нібы сілу капіталістых, выварочвае іх нутро. Наогул для дзяцей вельмі ўдалая кніжка.

Хочацца яшчэ адзначыць і тое, што ў нас зьявіўся сапраўдны аўтар дзіцячай прыгодніцкай кніжкі, якая разам з тым дае шмат каштоўных ведаў пра жыцьцё, пра людзей.

Пра адну з кніжак гэтага новага аўтара дзіцячай прыгодніцкай кніжкі на беларускай мове ўжо адзначалася на старонках «Чырвонага Сейбіта». Гэта была кніжка „Чалавек ід е", у якой аўтар абмаляваў у лёгкай форме і цікава жыцьцё першабытнага чалавека, у той час калі чалавек гэты яшчэ ня ведаў ні агню, ні прылад і не гаварыў. Пасьля гэтага хутка вышла ў гэтым-жа годзе другая кніжачка „У краіне райскай птушкі"—аповесьць з паднявольнага жыцьця на высьпе Новая Гвінея, падрабязны разгляд якой і ацэнка былі даны ў часопісу „Полымя".

Ва ўсіх рэцэнзіях на гэтыя кніжкі была падкрэсьлена бязумоўная каштоўнасьць іх.

Настаўнік.

**А. З. ИОАННИСИАНИ. „Методы краеведческого изучения Октябрьской революции в школе"** *пад рэдакцыяй і з прадмовай Ст. С. Крыўцова. (Выд. Камуністычнае Акадэміі. Масква. 1928 г. Стар.50. Цана 30 к.).*

Наша сучасная пэдагагічная практыка так слаба знаходзіць прыхільнікаў вывучэньня надаўных гістарычных падзеяў способам скарыстаньня дасьледчага мэтаду. Нажаль, славесны, кніжны мэтад пачынае пераважваць у школах пры выкладаньні гісторыі. Разам з тым, наш масавы настаўнік—выкладчык другога канцэнтру сямігодкі—часта ўказвае на адсутнасьць належных падручнікаў і мэтадычных указаньняў, якія далі-б патрэбныя матар'ялы для ўвязваньня праграм з дасьледчаю працаю.

Сваю думку аўтар разьвівае на самых канкрэтных матар'ялах з цыклю рэвалюцыйных кастрычнікаўскіх падзеяў у Маскве. Перанесьці гэты матар'ял у нашы школы нельга. Але вартасьць гэтае кніжкі для нашага беларускага настаўніка вынікае з мэтадычнага яе зьместу. Мэтад, рэкамэндаваны аўтарам, можа быць выкарыстаны і нашымі школамі. Удумчывы выкладчык грамадазнаўства, або група іх, маглі-б прыстасаваць яго ў сваёй практыцы.

У кніжцы мы знаходзім указаньні на прапрацоўку з вучнямі тыповага гістарычнага матар'ялу мясцовага значэньня—і ў гэтым галоўная мэтадычная вартасьць кніжкі. Падругое, Кастрычнікавая рэвалюцыя бярэцца не як эпізод, ня толькі як сьвята, да якога прыстасавана юбілейнае ўшанаваньне,—рэвалюцыя бярэцца, як пэўны гістарычны пэрыяд у жыцьці чалавечаства і пачатак новага грамадзкага ладу. Выходзячы з мясцовых умоваў, школа можа будаваць свае заняткі грунтуючыся на краязнаўчым матар'яле, і ў такой важнай тэме, як Кастрычнікавая рэвалюцыя.

Віскар.

---

## Чаго не хапае ў „Працаўніку Асьветы".

Дадатак да газэты «Савецкая Беларусь» „Працаўнік Асьветы" зьяўляецца вельмі каштоўным матар'ялам для працаўнікоў асьветы, асабліва для вясковых настаўнікаў. Сочучы за ім, вясковае настаўніцтва не адстае ад тэарэтычнае і практычнае дапамогі ў сваёй кожнадзённай працы як у школе, так і па-за школай.

Але мне думаецца, што ў дадатку не хапае аддзелу характарыстыкі выходзячых кніжак па пэдагагічных пытаньнях, патрэбу якога адчуваюць нізавыя працаўнікі асьветы. Шмат пытаньняў—фізычнае выхаваньне, ручная праца, гурткавая праца школы і г. д.—патрабуюць абагуленай думкі па гэтых галінах школьнае працы.

Магчыма, што па гэтых пытаньнях ёсьць дапаможнікі, але-ж вясковаму настаўніцтву ня так лёгка даведацца аб іх.

Патрэбна ўвесьці аддзел бібліаграфіі ў дадатак. Ус. Мал-н.

*Полаччына.*

# ХРОНІКА.

### Стыпэндыі імя 10-годзьдзя БССР.

Наркамасьветы пастанавіў установіць у ВНУ Беларусі 15 стыпэндый у адзнаку 10-годзьдзя існаваньня БССР. Разьмер стыпэндый установлены ў 50 руб. у месяц. Стыпэндыі будуць выдавацца ўдзельнікам грамадзянскай вайны ў Беларусі, або іх дзецям.

### Першы мэтадычны дапаможнік па дашкольнаму выхаваньню.

Вышаў з друку мэтадычны дапаможнік па дашкольнаму выхаваньню. У дапаможніку паміж іншымі матар'яламі зьмешчана праграма нулявой клясы, праграмы навыкаў для ўсіх груп дзіцячага саду, гульні ў дашкольных установах.

### Самаперападрыхтоўка дашкольных працаўнікоў.

Мэтадком НКА распрацаваў і накіраваў на месцы праграму гурткавой працы для калектываў дашкольных установаў. У праграме прадугледжаны ўсе бакі выхаваўчай працы. Як новае ў практыцы дашкольных установаў, уведзены пытаньні антырэлігійнага і палавога выхаваньня.

### Новы падручнік для сямігодак.

Навукова-мэтадалёгічны камітэт НКА зацьвердзіў рукапіс Троські, Камовіча і Кіпеля—Расьліны і іх разьвядзеньне ў сельскай гаспадарцы. Гэта кніжка дапушчана ў якасьці падручніка для 5 клясы школ сямігодак.

### Праца цэнтральнай дасьледчай школы.

Здадзены ў друк рукапіс цэнтральнай дасьледчай школы—„комплексная сыстэма на 5-ым годзе навучаньня". Гэты рукапіс дапушчан пры комплексным выкладаньні на пятым годзе навучаньня. Дапаможнік будзе надрукаваны ў ліку 5000 экз.

### 12 месц для асьветнікаў БССР.

ЦК саюзу вызначыў беларускай арганізацыі саюзу працаўнікоў асьветы 12 месц для завочнага навучаньня прафактыву і грамадзкіх працаўнікоў членаў саюзу прав камуністычны унівэрсытэт імя Сьвярдлова.

---

## *Наша перапіска.*

**А. Д. Бабруйск.** Допіс «Кнігу—у масы» па тэхнічных прычынах спазьніўся. Напішыце, як у вас прайшоў „Тыдзень кнігі", аддаўшы асаблівую ўвагу яго практычным вынікам.

**„Настаўніцы". Магілеўшчына.** Заметку «Хто зрывае працу асьветніка» надрукуйце ў сваёй насьценнай газэце. У нас ня пойдзе—дробязь.

**А. Л-у. Койданава.** Артыкул „На што школа павінна зьвярнуць увагу" друкавацца ня будзе. Паперш ае, нельга зьбіваць у адзін артыкул два зусім самастойныя пытаньні—пра дзіцячыя гульні і пра сувязь школы з бацькамі. Падругое, ніводнага з гэтых пытаньняў вы не распрацавалі і не надалі ім практычнага характару, а толькі кажаце аб патрэбе іх ажыцьцяўленьня. Гэта і так усім вядома.

**А. С-у. Койданава.** У сваім артыкуле «Школьнае самакіраваньне і грамадзкасьць» вы зблыталі два пытаньні: школьнае самакіраваньне вучняў і грамадзка-карысная праца школы. Нельга адно пытаньне падменьваць другім. Артыкул друкавацца ня будзе.

**Міколу А. Баршчоўка.** «З нашай практыкі—тэхнічная драбніца. Друкавацца ня будзе.

**Пецьку Сьнежнаму, А.-Гарадок.** Ваш допіс „У нас пакуль што добра" патрабуе сталай праверкі. Пакуль што друкаваць ня будзем.

**Б. Ржавуцкаму. Чачэрск.** Лічым, што зараз захапляцца «Прыемнымі справамі» яшчэ ранавата. Пачакайце — што пакажа навучальны год. Заметку «На зімовы пэрыяд» скарыстаем.

**Г. Ш-аву. Шклоў.** Нататка «Больш увагі сучаснасьці ў школах» нічога новага не дае. Друкавацца ня будзе.

Менск, друкарня „БДВ". Галоўлітбел № 302.